*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

№ 5(15) • 20—26 САКАВІКА • 1991

Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)



### СКРАДЗЕНА ШЫЛЬДА ТАВАРЫСТВА

*Уначы з пятнаццатага на шаснаццатага сакавіка з будынку, дзе месціцца штаб-кватэра Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны і рэдакцыя газеты «Наша слова», скрадзена шыльда, на якой намаляваны герб Таварыства. На шыльду «Наша слова» з выяваю бел-чырвона-белага сцягу, на плакат «Дзень зямлі», які заклікаем ратаваць родную прыроду, на ўваходныя дзверы былі наклеены лістоўкі за падпісам кансультацыйнага камітэту Хрысціянства дэмакратычнага саюза Беларусі, зробленыя друкарскім спосабам. Змест лістовак скіраваны супраць нядаўняга дэмакратычнага форуму ў Харкаве, яны заклікаюць галасаваць на рэферэндуме 17-га сакавіка за Савецкі Саюз.*

*Скрадзеную шыльду і хуліганаў шукае міліцыя.*

## *Малітва за Беларусь*

*Магутны Божа, Уладар сусветаў,*
*Вялікіх сонцаў і сэрц малых,*
*Над Беларуссяй, ціхай і ветлай,*
*Рассып праменні свае хвалы.*

*Дай спор у працы, штодзённай, шэрай.*
*На лусту хлеба, на родны край.*
*Павагу, сілу і веліч веры*
*У нашу праўду, у прышласць дай.*

*Дай урадлівасць жытнёвым нівам,*
*Учынкам нашым пашлі ўмалот.*
*Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай*
*Краіну нашу і наш народ!*

Наталля АРСЕННЕВА (ЗША).
(Верш стаў рэлігійным гімнам беларусаў-каталікаў).

## БОЖА, НЕ КАРАЙ БЯСПАМЯЦТВАМ

Праваслаўная царква на Беларусі пачынае гаварыць на мове народа, які яна прылучае да вышэйшай Ісціны ў чалавеку. 1 студзеня гэтага года прагучала па-беларуску Каляднае пасланне Філарэта, мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі. Айцец Алексій Шынкевіч кожнае сваё святарскае набажэнства пачынае малітвай за Беларусь на беларускай мове:

«Божа Усемагутны! Адхіні напасці ад Бацькаўшчыны нашае Беларусі, захавай на вякі вечныя край вольным, зямлю люднай, паветра чыстым, ваду крынічнай, нетры непарушнымі, каб цешылася з ласкі Тваёй усё жывое: і чалавек, і птушка, і жывёліна, і дрэўца, і ўсё стварэнне святое тваё.

Ойча Нябесны, блаславі люд беларускі як у нашым краі, так і далёка па-за межамі яго. Аб'яднай і збяры нас на зямлю Бацькаўшчыны нашае, бо плача і сумуе аб гэтым сэрца яе. Блаславі на еднасць і ўзаемадапамогу нас у кожным месцы зямлі Тваёй, накіруй нас на шлях дабра і справядлівасці, спагады да бліжніх і далёкіх нашых.

Захавай нас ад варожага нападу, вайны, голаду, мору, агню, землятрусу, патопу, д'ябальскай сілы і навалы чарнобыльскай, ад брацкай нязгоды і непаразумення.

Навучы нас любіць ворагаў нашых і маліцца за іх.

Дапамажы нам захаваць у сэрцах веру нашу і славіць Святое Імя Тваё на святой мове нашай роднай беларускай.

Дай спазнаць літасць і любоў Тваю да нас, выбач нам грахі і няпраўды нашыя: злабу і гультайства, распусту і хцівасць, адрачэнне ад Цябе і абыякавасць да лёсу Краю нашага і да гора яго народу.

Адвядзі нас ад спакусы здрады і нявернасці, няпраўды і слоў аблудных і іншых дзеяў і ўчынкаў, што губяць душы нашы і нясуць сорам Краю нашаму.

Сцеражы нас, Божа, ад грэху халуйства, ад прыніжэння годнасці Бацькаўшчыны і нашага народа беларускага.

Не карай нас бяспамяцтвам і не дай забыцца святой мовы нашай беларускай, гісторыі і асвечаных традыцыяў нашых, а дай сілы і шчырасці з адданай любоўю і пашанаю прымнажаць спрадвечнае і высакароднае, што стварылі для нас продкі нашы.

Божа магутны! Дай розум і мудрасць правіцелям нашым.

Божа літасцівы, пашлі нам сілы і цярпенне ў стараннях нашых аб росквіце і волі Бацькаўшчыны нашай і дай нам бязмерную любоў, каб мы бясконца любілі святую Беларусь, і захавай і блаславі яе нам на векі вечныя. Амінь».

*Рэха* *Рэха*

## ПРА НОВАГА ТАТУ, АЛЬБО ХТО З ЧЫМ ГУЛЯЕ

Пісьменнік Іван Чыгрынаў, магчыма, укладваў у свае словы нейкі іншы змест, калі казаў панегірык М. С. Гарбачову на сустрэчы ў Акадэміі навук БССР, але прагучала менавіта гэтак: сацыялізм — цацка. Якую нейкія дзеці, раздурэўшыся, паламалі. Цяпер тэрмінова патрабуецца Тата, які б гэтую «цацку» адрамантаваў. Пісьменнік палымяна заклікаў М. С. Гарбачова стаць Татам адрамантаванага сацыялізму. Нейкія масы таго вельмі прагнуць і камуніст Чыгрынаў у тым ліку.

Такі вось мастацка-філасофскі спіч ці экзерсіс. Не бяромся адказаць адназначна, да чаго сапраўды імкнуцца масы,— ці атрымаць зноў падрамантаваную Татам («Айцом народаў», відаць?) цацку, ці ўсё ж мець магчымасць нарэшце жыць без ідэалагічных ды іншых паганятых, а вось запытанні шмат якіх чытачоў «Нашага слова» (у прыватнасці, рабочых — сяброў ТБМ на мінскім аб'яднанні «Інтэграл») гучаць так: чаму беларускія пісьменнікі накіравалі менавіта І. Чыгрынава на сустрэчу з Прэзідэнтам і ці запыталі перад тым, што іх дэлегат збіраецца ад імя літаратурнай грамадскасці казаць?

Мусім унесці на гэты конт трохі яснасці. Наколькі ўдалося выявіць, беларускія пісьменнікі на сустрэчу з Прэзідэнтам дэлегата не пасылалі. Канечне, І. Чыгрынаў, магчыма, і выказаў не толькі ўласныя меркаванні наконт «цацкі», тым не менш іншыя існуюць таксама. Іх, праўда, не змог пачуць нечаканы высокі госць з цэнтра, але неўзабаве пасля яго візіту на Беларусь, яны, гэтыя меркаванні, сталі вядомыя чытачам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Маем на ўвазе надрукаваную ў нумары ад першага сакавіка гутарку народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава з Сяргеем Навумчыкам — «За нас вырашаюць іншыя...»

Праблемы ў гутарцы ўзняты сур'ёзныя, балючыя. Напрыклад, чым выклікана юрыдычная некарэктнасць фармулёўкі пытання рэферэндуму аб будучыні СССР? Адказваючы на гэта пытанне, Васіль Быкаў зазначыў, што наогул і «канцэпцыя гэтага рэферэндуму лішні раз сведчыць: мы ніколі не вырашаем свой лёс — за нас тое робяць іншыя. Ставяць свае ўмовы, фармулююць наша рашэнне, маніпулююць народнай воляй. Мы зноў і каторы раз,— працягваў разважаць народны пісьменнік Беларусі,— трапілі ў зачараванае кола: каб вольна і па справядлівасці вырашыць пытанне дзяржаўнага суверэнітэту, трэба быць суверэнным народам. А каб быць суверэнным народам, трэба мець дзяржаўны суверэнітэт».

Выказаў пісьменнік і сваю думку пра тое, ці варта бясконца прыніжана прасіць аб дзейснай падтрымцы беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння ў тых, хто давёў народ да сённяшняга стану. «Нашы слёзныя скаргі на агонію нацыянальнай мовы,— сказаў Васіль Быкаў,— даўно сталі агульнай рытарычнай мясцінай. Цяпер ужо пэўна відаць, што папяровыя законы ды імітацыя бюракратычнай актыўнасці апошніх гадоў маюць на мэце замаскіраваць ад народа тую агонію, выдаць яе за культурную рэанімацыю. У гэтай сувязі,— падкрэсліў ён, — нічым іншым, як непрыхаваным крывадушшам, нельга растлумачыць «хітравумную» пазіцыю тых беларускіх літаратараў, якія так гучна крычаць у абарону нацыянальнай мовы, а самі навыперадкі кідаюцца да супрацоўніцтва з КПБ — гэтым зацятым магільшчыкам нацыянальнай культуры...»

Кар. «Н. с.».



Святыня Пакутнікаў. Мідлэнд. Канада.
Памятны Крыж тысячагоддзя хрысціянства ў Беларусі. Асвечаны 5-га верасня 1988 г.

На другой старонцы чытайце ліст Раісы ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ з Канады «УСІХ НАС ЛУЧЫЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНА».

*Сяргей ДУБАВЕЦ*

# 25.III.1991

25 сакавіка — свята, якое для мяне пачынаецца не на пляцы, не з расквечаных сцягамі вуліц, не з урачыстых прамоваў па радыё. Вядома, некалі, не сёлета, дык налета ці яшчэ праз сотню гадоў, усё так і будзе. Будзе свята, якім законная ўлада на Беларусі адзначыць Дзень свайго нараджэння. А пакуль... Гады хованак, забаронаў і маўчання прывучылі да іншага ладу нацыянальнага Дня Волі, які стаў вельмі і перш за ўсё асабістым.

25 сакавіка я пастаўлю дома навідавоку маленькі бел-чырвона-белы сцяг і буду думаць пра сваё — пра Беларусь, «зямлю, якая амаль што не дыхае», сталася для мяне сінонімам недасяжнае Волі. Шмат чаго — ужо «належнага» і зусім выпадкова — убачыцца мне ў гэтым настольным сцяжку.

Я ўспомню сваю бабулю Хвядору, якая так і не навучылася размаўляць па-расейску, хоць начулася за сваё жыццё і «матка, яйко», і «бабка, бутылку». Бабуля ведала адну, беларускую, мову свае вёскі. Не ўмела чытаць. Выгадавала 9 дзяцей, і дай мне Бог столькі дабрыні і працавітасці, колькі было ў яе.

А можа, каб стаць абсалютна маральным чалавекам, зусім неабавязкова трымцець над томікам Чэхава і, уяўляючы сябе на месцы П'ера Бязухава, думаць: як бы зрабіў я? А можа, «знание великого языка» наадварот — часам вызваляе іншародцаў ад некаторых маральных абавязкаў, такіх, напрыклад, як павага да свае мовы? А можа... Што нас робіць людзьмі і што — нелюдзямі?

Я ўспомню мой родны горад Мазыр, якога ўжо няма, але які застаўся ў маёй памяці. За апошнія пару дзесяцігоддзяў гэты горад знішчылі незваротна — паруйнавалі унікальны ландшафт, крутыя зялёныя ўзгоркі, на якіх, між якімі, пад якімі стварыўся некалі феномен гэтага места. Знішчылі ўсё, што пярэчыла прынцыпу савецкага мілітарысцкага «единообразия»: пакручастыя вулкі «жыдоўскіх клапоўнікаў», архітэктурна-гістарычны помнік XIX ст. — будынак жаночай гімназіі, усе старажытныя могілкі... Затое найлепшым чынам захоўваецца ў кабінеце мясцовага Швондзера, пастаўленага «кіраваць помнікамі», гістарычнае палатно, на якім вядуць прынцыповую гутарку І. Сталін і М. Калінін.

Я ўспомню шмат іншых старых гарадоў — Полацак, Менск, Гомель, Вільню... і буду думаць пра тое, што мая памяць не здраджвае рэальнасці толькі ў адным з іх — у Вільні. Глыбакадумна пры гэтым я прамоўлю ўголас тэзу, якая сталася для меня аксіёмай — без вяртання Вільні (не ў БССР, а ў нацыянальны светапогляд) ніякае беларускае адраджэнне немагчыма.

Прыродныя краявіды ўспамінаюцца мне рэдка. Засыпаная лістападам Кушлянская сядзіба Ф. Багушэвіча, аснежаная замкавая гара ў Навагрудку, Шчара ў Слоніме, разбухлая ад паводкі Іпуць, дзе мы ледзь не патапіліся ў навальніцу, Мухавец, Ашмянка ніжэй Солаў і Вялля пад Міхалішкамі, закіданая ўсялякім смеццем Палата... Не магу захапіцца гэтым, бо маю засцярогу ад экзотыкі. Беларусь — не экзатычная краіна. Тут не курорт і не Мекка для турыстаў. Тут дом. Тут нам жыць. Нават калі ў падполлі здох чарнобыльскі пацук: ён смярдзіць, а дастаць яго няма як.

Я ўспомню, што яшчэ ў пачатку 80-х, калі мы ля вогнішча ў лесе пад Менскам 25 сакавіка спявалі «Не загаснуць зоркі ў небе», недзе паміж маіх думак варушыўся сумлію: а можа, і праўда... не тое святкуем?

«А, можа і праўда?» — паўтару я і сёння спакуслівае пытанне, каб знайсці новыя аргументы і новую логіку. Усё, сказанае раней, ператварылася ў штампы, а свабода не можа быць выказаная штампам, яна кожнага разу патрабуе новых жывых словаў. Таму Дзень Волі кожнага разу — гэта пераацэнка пройдзенага і перажытага. Гэта шлях да Волі, да Беларусі як суб'екта ўласных інтарэсаў. 25 сакавіка, калі была абвешчана незалежная БНР, Беларусь была такім суб'ектам апошні раз. Дагэтуль мы аб'ект. І застанемся такім у па-любому «абноўленым» саюзе з імперскай ідэяй і яе носьбітамі.

...Я ўспомню засяроджаныя твары братоў Луцкевічаў, Ластоўскага, Гарэцкага, Купалы, Багушэвіча, Скарыны... і падумаю — ці не ў тым сапраўдная значнасць гэтых людзей, што жывыя вобразы іх кожнага разу выслізваюць з прысвечаных ім манаграфій, помнікаў і барэльефаў, патрабуючы новага і больш асабістага зразумення? «Мы тварылі кожны сваю Беларусь, — кажуць яны нам. — А вы, замест таго, каб убачыць гэтую суладнасць, спрасцілі, звялі яе космас да прымітыўнага таўра, якое ставіце на нашых бронзавых ілбах». Слушна: той жа Купала толькі тады будзе мець для мяне рэальную каштоўнасць, калі сваім досведам і сваім геніем будзе праяўляцца ў маіх справах, у маім жыцці, калі будзе запатрабаваны мною, табою, пятым — кожнаму свой Купала...

Нарэшце, гэткім парадкам думкі мае зноў вернуцца да свайго — да пісьмовага стала, на якім стаіць наш нацыянальны сцяжок, да артыкулаў і палемік, і я, паміж іншым, зноў не зразумею тых, хто разрывае і проціставіць нацыю і свабоду на Беларусі. Ці ж магчыма, не адказаўшы сабе на падставовыя пытанні: хто я? і дзе я? — заяўляць пра тое, чаго хачу?

25.III.1991 я ведаю, чаго хачу.

*Віктар ШНІП*

* * *

***Пачарнелі знаёмыя светлыя далі,***
***Як наш Храм на пагорку чужынцы ўзарвалі.***
***І мы дружна тапталі да крамы дарогу,***
***Да гарэлкі дзяржаўнай прывыклі патроху.***
***І чаплялі на сцэны***
***чужынцаў партрэты,***
***І пра партыю оды пісалі паэты.***
***І хадзілі пад сцягам чырвоным на святы,***
***І клялі, і любілі сваіх бюракратаў.***
***І забыліся родную светлую мову,***
***І паверылі хамскаму чорнаму слову,***
***Што нічога не варты мы ў гэтай краіне***
***І рабамі жывём, і рабамі загінем.***
***А калі мы жадаем на свеце застацца,***
***Нам патрэбна Айчыны сваёй адцурацца,***
***Адцурацца і жыць, не жадаючы Волі,***
***І чужынца любіць і ніколі, ніколі***
***Не пярэчыць чужынцу, што ТУТ гаспадарыць.***
***Нават нельга пра светлую долю памарыць...***
***Толькі мы беларусы — не быдла дурное,***
***Што забудзе сваё і палюбіць чужое.***
***Пасвятлелі знаёмыя шэрыя далі,***
***Як мы выйшлі на пляцы і праўду сказалі***
***Пра свой Край і пра мову, пра светлыя мары,***
***Пра Чарнобыля чорныя хіжыя хмары...***
***...Ды вісяць шчэ на сценах чужыя партрэты —***
***І няблізка да светлай адвечнае Мэты.***

# Усіх нас лучыць Бацькаўшчына

Бацькаўшчына — гэта не толькі тэрыторыя, дзе ты нарадзіўся ці дзе нарадзіліся і жылі твае бацькі, дзяды ці прадзеды. Бацькаўшчына — як чалавек, у якога ёсць галава, рукі, ногі, сэрца, лёгкія, вантробы. Чалавек ёсць і асоба са сваёй культурай, разумовым і духоўным. Гэтак і Бацькаўшчына — гэта зямля-тэрыторыя, дзе жыве спадкаемец, у нашым выпадку, беларускі народ. Тэрыторыя Беларусі мае сваё хараство і багацце. Народ мае сваю тысячагадовую гісторыю, звязаную са сваёй тэрыторыяй, свае здабытыя стагоддзямі (хоць і раскрадзеныя і нішчаныя акупантамі) культурныя багацці, мае сваё духоўнае аблічча, сваю самабытнасць. Мае сваё паходжанне, што адрознівае беларусаў ад усіх усходніх славян,— балцкі субстрат; мае сваю мову — спеўную, меладыйную (пасля італьянскае найбольш прыдатную для песні), мілагучную, лагодную, як сам народ.

І я маю шчасце і гонар быць часткай пакутнага, але ў сваіх цярпеннях Вялікага Беларускага Народа і, калі так можна сказаць, неадрыўнай часткай мае БАЦЬКАЎШЧЫНЫ-БЕЛАРУСІ.

Сілаю аддзяліце мяне ад мае Бацькаўшчыны, і я, як тая рука, адрэзаная ад чалавека, згнію. Чалавек выжыве без рукі, і Бацькаўшчына, каб я яе адракалася, выжыла б без мяне; але я без Бацькаўшчыны, як тая адрэзаная ад цела рука, згнію. Памру, загібею душой, як кветка, адрэзаная ад свайго карэння.

Бацькаўшчына — гэта магутнае ў красе сваёй кароны дрэва. Я — маленькая на ім галінка, што шуміць на вятры побач з вамі, землякі з Меншчыны, Полаччыны, Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Берасцейшчыны, Навагрудчыны, Гародзеншчыны і Віленшчыны. Не забывайце Віленшчыны і Вільні: яна наша. Там Скарына ў 1522 годзе друкаваў свае кнігі, там Леў Сапега ў 1588 годзе Статут Літоўскі па-беларуску ў друкарні братоў Мамонічаў друкаваў і ў прадмове да яго казаў: «І слушна запраўды маем за што Пану Богу дзякаваці жэ... тую ўладу і вольнасць у руках сваіх маем, а права самі сабе творым... А есьлі катораму народу стыд праў сваіх ня ўмеці, пагатове нам каторыя ня обчым якім языком, але сваім уласным права сьпісанае маем...»; там на вісельні з рукі Мураўёва загінуў Кастусь Каліноўскі, там кавалася «Наша доля» і беларусчынай рунела «Наша ніва»; там быў знамяніты Беларускі музей імя Івана Луцкевіча, раструшаны і ворагам аддадзены ў чужыя рукі; там былі славутыя, а цяпер забытыя Базыльянскія муры (колішні уніяцкі кляштар), дзе ад 1919 года месцілася 1-я Віленская Беларуская гімназія з 8-мю гімназіяльнымі класамі і 2-ма пачатковымі. Духоўная семінарыя, інтэрнат абедзвюх школ. Беларускі музей імя Івана Луцкевіча з Беларускім навуковым таварыствам, Беларускі нацыянальны камітэт, рэдакцыі беларускай газеты, Беларускія настаўніцкія курсы, што падрыхтоўвалі настаўнікаў у існуючыя беларускія школы, аб адрыцці якіх старалася Беларуская школьная рада Віленшчыны: і ў падвалах Базыльянскіх муроў была тайная друкарня... Там у Вільні на Завальнай быў Беларускі студэнцкі саюз: там выдаваліся на ўсю Заходнюю Беларусь беларускія календары, беларускія газеты і кніжкі, там гадаваліся і тварылі беларускія паэты, пісьменнікі, навукоўцы, там выйшла «Гісторыя беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага (1920), там ксяндзы Адам Станкевіч і Гадлеўскі дзеялі... Вільня да 1939 года была сталіцай Заходняй Беларусі.

Можа, хто скажа мне: ты ж Бог ведае дзе, далёка ад Беларусі, на іншым кантыненце, у Канадзе. Але: я ў Канадзе, але я жыву галінкай на дрэве Бацькаўшчыны-Беларусі і Ёю і для Яе я жыву. Мае зялёныя лісточкі збіраюць сонечную энергію для магутнага дрэва маёй Бацькаўшчыны-Беларусі.

Бацькаўшчына для мяне ёсць і Маткай. Тою самай Маткай, што і для Вас, беларусы, дзе б вы ні знаходзіліся, на зямлі беларускай, у Сібіры, Аўстраліі ці Амерыцы.

А мова — гэта душа беларуса, гэта найвялікшы наш нацыянальны скарб, наш пашпарт. Як мы яе шануем, так іншыя шанаваць нас будуць. Забярыце ад народу душу-мову — і ён зробіцца жабраком, якога знаць і шанаваць ніхто не будзе.

«Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі»,— кажа нам Францішак Багушэвіч, а Францішак Скарына як аб скарбе гаворыць аб сваёй беларускай мове, бо яго «міласціві Бог з таго языка на свет пусціў» і дзеля таго ён кнігі свае «для паспалітага дабра» на гэтай мове друкуе.

«Не ўмруць, не ўмруць ужо яны...» раз маюць такіх Францішкаў, як Скарына і Багушэвіч, Янкаў, як Купала, Кастусёў, як Каліноўскі, Максімаў, як Багдановіч, і Караткевічаў, і Рагнедаў Рагвалодаўнаў, і Ефрасінняў Полацкіх.

«Мы не памрэм, хоць шмат
магілаў
На шляху нашым упоперак
лягло...»
(М. Танк).

Слаба Табе, Бацькаўшчына! Жыве Беларусь!

Раіса **ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ**
з Канады, а родам з Пружанаў.

# СТВОРАНЫ НОВЫЯ ПАРТЫІ!

Нядаўна ў Менску адбыліся ўстаноўчыя з'езды Беларускай Сялянскай партыі і Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады. На з'ездах кожная партыя вызначыла сваю Праграму, зацвердзіла Статут.

Партыі ў праграмах маюць шмат агульнага. Яны — за ўсталяванне дэмакратыі ў краіне, дамагаюцца ўводу прыватнай маёмасці на сродкі вытворчасці, выступаюць за адраджэнне беларускай мовы і культуры. У часе з'езда БСДГ Міхась Ткачоў, які выступіў перад 154 дэлегатамі, прачытаўшы даклад, між іншага, адзначыў:

— Раз-пораз побач з нашым народам уздымаюцца хвалі міжнацыянальных сутыкненняў, пагрозліва бліскаюць дэсантныя штыкі і льюць людскую кроў навейшыя забойныя кулі. Усё гэта адбываецца на фоне гіганцкай катастрофы: навідавоку ўсяго ўтрапёнага і здзіўленага чалавецтва ідзе планамернае караблекрушэнне марксісцка-ленінскай ідэалогіі, а разам з ёю караблекрушэнне цэлых пакаленняў нашых з вамі суайчыннікаў. З жалем і болем адзначаючы гэты трагічны ў айчыннай гісторыі факт, мы павінны па-людску, з разуменнем і тактам аднесціся да сапраўднай трагедыі і пакутаў тых, хто, паклаўшы сваё і чужое здароўе, лепшыя гады і сілы дзеля ўвасаблення ў жыццё прывіднай ідэі камунізму, сёння напрыканцы жыццёвае дарогі апынуўся ля разбітага карыта. Сёння ля гэтага «карабля» гісторыі стаім у глыбокім роздуме і мы з вамі. Мы не збіраемся выстаўляць рахункі — КПБ — КПСС. Наша задача ў іншым — глыбока прааналізаваць прычыны трагедыі Беларусі, вызначыць арыенціры будучыні нашага грамадства, зрабіць выразны крок у справе кансалідацыі народа, стварыць магчымасці для багатага і поўнага сэнсу жыцця.

Зыходзячы з аналізу сучаснай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы і вакол яе, рэальна ацэньваючы цяжкі сённяшні дзень, з трывогай думаю пра дзень заўтрашні, пра будучыню роднай Беларусі, пра шляхі яе далейшага сацыяльна-эканамічнага і нацыянальна-дзяржаўнага развіцця.

Мы прыйшлі да высновы, што ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі павінна заняць належнае месца беларуская сацыял-дэмакратыя.

Мы прыйшлі да высновы аб неабходнасці стварэння (адраджэння) Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.

**(Паводле матэрыялаў штотыднёвіка «ЛіМ»).**

# ПОДЗВІГ САПЕГІ

Заканчэнне. Пачатак у 4-м нумары.

Таксама ў 1584 г. у Вільні на агульным з'ездзе шляхты Вялікага Княства распачаліся вострыя дыскусіі вакол фінансава-падатковай палітыкі гаспадарства, арганізацыі гандлю, адносін да ліхвяроў і ліхвярства і г.д. Павятовыя соймікі шляхты, са свайго боку, уздымалі мноства іншых праблем, якія патрабавалі юрыдычнага афармлення. Напрыклад, Ваўкавыскі соймік 1584 г. уносіў слушныя прапановы па ўдасканаленні ўзаемаадносінаў між свецкімі і духоўнымі панамі-радамі.

Нават з прыведзеных прыкладаў бачна, што к сярэдзіне 80-х гадоў XVI ст. карэнная рэарганізацыя заканадаўства ў Вялікім Княстве наспела і пераспела. Але наўрад ці была б яна ажыццёўлена, калі б не ўзначаліў Леў Сапега, які за ўдалыя перамовіны ў Маскве ды падпісанне дзесяцігадовага міру, пасля вяртання на радзіму, другога лютага 1585 г. атрымаў пасаду падканцлера. Катэгарычна адкінуўшы ідэю ўтварэння адзінай унітарнай дзяржавы, чаго дамагаліся палякі, Леў Сапега ў аснову новага кодэкса законаў закладвае зусім іншы прынцып, згодна з якім Вялікае Княства з'яўляецца самастойнай дзяржавай, што ўступае ў стасункі з Польшчаю на федэратыўных пачатках.

Грунтоўна перагледзеўшы нормы Статутаў 1529 і 1566 гадоў і абагуліўшы ранейшыя напрацоўкі, зробленыя нешта за шэсць год, падканцлер да 1587 г. ужо меў на руках у асноўным завершаны рукапіс новага Статута, зацвярджэнне якога стала галоўнай умоваю, якую шляхта Вялікага Княства паставіла Жыгімонту III Вазу пры абранні яго каралём ды вялікім князем.

Падрыхтаваны кодэкс законаў цалкам разыходзіўся з «Заключным Актам аб уніі» 1569 года. Аднак прэтэндэнт на каралеўскі ды велікакняскі трон Жыгімонт Ваза 28 студзеня 1588 г., ведаючы, якія сумныя вынікі для яго можа мець канфлікт з шляхтаю Вялікага Княства, паставіў свой подпіс пад Прывілеем, што пацвярджаў юрыдычную моц Статута. Як сведчаць факты, у адваротным выпадку ён, напэўна, страціў бы карону Рэчы Паспалітай наогул, бо шляхта Княства рыхтавалася са зброяю ў руках адстаяць свае правы, аб чым недвухсэнсоўна заяўлялася ў рашэннях трох віленскіх з'ездаў 1587 года.

Леў Сапега гэтаксама атрымаў ад Жыгімонта Вазы Прывілей на выключнае права выдання Статута 1588 г., якое ён праз некалькі месяцаў, ахвяруючы ўласнымі сродкамі, спаўна і паспяхова рэалізаваў.

Доказам непасрэднага ўдзелу падканцлера Княства ў падрыхтоўцы выдання Статута 1588 г. з'яўляецца, апроч вядомых Граматаў, надрукаваных перад асноўным зместам Статута, ягоны ліст ад 13 ліпеня 1588 г. да тагачаснага канцлера Крыштофа Радзівіла Пяруна, у якім Леў Сапега, у прыватнасці, піса: «Статут новы загадаў ужо друкаваць па-руску, хацеў бы яго выдаць і па-польску, аднак, калі б давялося яго перакладаць літаральна, паводле рускіх слоў і сентэнцыяў, то атрымалася б вельмі блага, а інакш — не магу. Ахвотна пачуў бы рады Вашае Міласці. Прывілеі гэтаксама з задавальненнем выдаў бы пры Статуце, аднак з-за таго, што не ўсе яны нам на руку — у адных пачатак добры, а сярэдзіна дрэнная, у другіх сярэдзіна добрая, а пачатак і канец дрэнныя, — не магу вырашыць, ці належыць выкінуць тое, што шкадлівае, ці не?»

Да друкаванага Статута 1588 г. Леў Сапега напісаў вядомую ў літаратурных адносінах «Прадмову», у якой, абапіраючыся на дасягненні антычнай і еўрапейскай гуманістычнай думкі, сфармуляваў сваё разуменне сутнасці дзяржавы ды вызначыў ролю законаў і права ў рэгуляванні грамадскага жыцця.

Эвалюцыя заканадаўства Вялікага Княства, пашырэнне сфераў грамадскай дзейнасці, што рэгуляваліся Статутам — тэма асобнай гаворкі. Тут толькі зазначым, што ў трэцім Статуце, у параўнанні з папярэднімі кодэксамі законаў Вялікага Княства, пачынаючы ад Судзебніка Казіміра 1468 г., амаль ва ўсіх нормах права — дзяржаўнага, грамадзянскага, вайсковага, адміністрацыйнага, зямельнага, шлюбна-сямейнага, апякунскага, судова-працэсуальнага, крымінальнага, ляснога і паляўнічага — ёсць удасканаленні, дапаўненні ці змены. А многія артыкулы наогул упершыню трапілі ў асноўны закон, як, напрыклад, трэці артыкул трэцяга раздзела «Аб захаванні ў спакоі ўсіх паддадных нашых, абываталяў панства з боку рознага разумення і ўжывання хрысціянскага набажэнства». Гэты артыкул поўнасцю паўтараў Акт Канфедэрацыі 1573 г., выражаў сутнасць дзяржаўнай рэлігійнай палітыкі Княства, абараняў прынцып талерантнасці, гарантуючы роўныя правы прадстаўнікам усіх канфесій. «Паколькі ў Рэчы Паспалітай,— гаварылася ў ім,— існуюць не малыя адрозненні ў адносінах да хрысціянскае веры, то мы, імкнучыся папярэдзіць розныя шкодныя сутыкненні між людзьмі на гэтай глебе, якія назіраюцца ў іншых каралеўствах, абяцаем, прысягаючы вераю і сумленнем за сябе і нашчадкаў нашых, што мы, розныя па веравызнанні, будзем заўжды захоўваць мір між сабою, не праліваць крыві ў цэрквах, не караць адсуджваннем маёмасці, а таксама — пазбаўленнем гонару; вязненнем і выгнаннем, не спрыяць у гэтым аніякім уладам, і ў такіх справах нікому не дапамагаць, а наадварот, калі б хто хацеў яе праліваць, бараніць ад гэтага. Такі абавязак усіх...»

Статут 1588 г., з'яўляючыся адным з найбольш дасканалых заканадаўчых кодэксаў Еўропы, бясспрэчна адыграў велізарную ролю ва ўсёй гісторыі Беларусі. Так, ён на нейкі час прыпыніў працэс паланізацыі беларускай шляхты праз касцёл. Прыгадаем хаця б амаль дзесяцігадовую спрэчку (з 1591 па 1600) між урадам Вялікага Княства і Жыгімонтам III Вазам з-за прызначэння на віленскае каталіцкае біскупства паляка Бярнарда Мацеёўскага. Толькі дзякуючы адпаведным артыкулам Статута 1588 г., што забаранялі палякам займаць духоўныя і свецкія пасады на землях Княства, на віленскае біскупства ўзышоў беларус Бенадыкт Война.

Герб Льва Сапегі з панегіракам на яго Андрэя Рымшы, надрукаваны ў Статуце 1588.

Акрамя таго, трэці Статут, як, дарэчы, і папярэдні, пацвярджаў, што дзяржаўнаю моваю Вялікага Княства з'яўляецца беларуская. Агромністае значэнне гэтага факта для айчыннай культуры відавочнае.

Перакладзены каронным сакратаром Паўлам Шчэрбіцам на латынь Статут 1588 г. стаў даступным для знаўцаў права заходнееўрапейскіх краін. У 1614 г. ён быў выдадзены і на польскай мове. На самым пачатку XVII ст. Статут 1588 г. гэтаксама перакладаўся на рускую мову і паўплываў на змест многіх артыкулаў маскоўскага зводу законаў — Саборнага Укладання 1649 г.

Статут 1588 г. працягваў дзейнічаць на землях Беларусі нават пасля яе захопу Расійскай імперыяй: у Віцебскай і Магілёўскай губернях — да 1831 г., а ў Гродзенскай, Мінскай ды Віленскай — да 1840 г., і, мабыць, як нішто іншае, спрыяў захаванню беларускай народнасці.

Іван САВЕРЧАНКА,
кандыдат філалагічных навук.

## Гартаючы старыя выданні

Вінцук ЦІТОВІЧ

# З нашага жыцьця

Працаўнікі адраджэньня культуры беларускае на ўсялякія спосабы стараюцца заглушыць узрослы рух адраджэньня беларускага народу. Каб гэты рух паганьбіць у вачох народу, пускаюць розныя баламутні, розныя няпраўды. Кажуць, быццам мовы беларускае саўсім німа, а ёсьць толькі нейкая мешаніна слоў польскіх і рускіх бяз ніякага зьвязку. Але што б ні казалі працаўнікі нашыя, зацемніць праўду яны не здалеюць, бо праўда застанецца праўдаю заўсёды, і мова беларуская горшай ад гэтага не станецца, ані будзе менш дарагою нам, бо крывёй дзядоў і прашчураў цячэ яна ў нашых жылах і нам так сама дорага, як немцу нямецкая, французу французкая. А калі хто й мае яе за горшую, чым сваю мову, то ж яго ніхто не прымушае гаварыць па нашаму, а калі мы самі між сабою гаворым у гэтай мове, то гэта ж наша ўласная народная справа.

Праўда, што за апошнія 200—300 гадоў мова беларуская не разьвівалася, бо багацейшыя станы, баяры і шляхта пайшлі за чужою моваю, культурай і навукай, сваёй адцураўшыся. Прыбярог яе ў жыцьці толькі гарапашнік-мужык — у курнай хаці прахаваў гэтае найбольшае наша народнае багацьце. Але ня толькі мужык прахаваў беларускую мову, прахавалі яе йшчэ і старыя кнігі, каторыя вялікай працай і коштам друкавалі нашае памяці годныя продкі, прахавалі яе йшчэ незьлічоныя дакументы, пісаныя за каралёў літоўскіх і польскіх мовай нашаю беларускай.

Аб нашай слаўнай мінуўшчыне кажа беларускі пясьняр Васіль Васілёк:

«Слаўна наша прошласьць! мову шанавалі;—
не чураліс ёю Польшча і Літва,
Ў ёй правы пісалі, кнігі ў ёй пісалі,
Быў час, не чуралась ёю і Масква».

Так, мова беларуская рана разьвілася,— раней за польскую і расейскую. Расейцы і палякі вучыліся з нашае мовы, а ня мы з іхнае, а што нашую навуку і культуру заглушылі чужыя, то таксама не віна, нас, сялянскага стану, але віна станаў тых, што панавалі над намі і лёгка, як пасталы, перамяняць маглі сваю веру, народнасьць і мову на чужую.

Няпраўда, што ў беларускай мове шмат польскіх слоў, бо калі нашая навука старэйшая за польскую, то ня мы карысталі з польскае мовы, але палякі з нашае. Бо беларускі пераклад Бібліі друкаваўся на 40 гадоў (1517 г.) раней, чым польскі; бо ў самым сэрцы Польшчы — Кракаве ня польская друкарня была першаю, але беларуская; бо Статут (законы для усяе Літвы) укладаўся і друкаваўся перш па-беларуску, а пасьля з беларускае мовы рабілі пераклад на польскую, а разам з тым прыймалі беларускія словы ў польскую мову цалікам; урэшце з беларускае мовы карысталі палякі нашага краю, пішучы позвы судовыя і розныя акты і йзноў прысвойвалі словы беларускія. Таксама нашыя пераклады Бібліі і псалтыроў ішлі ў Расею.

Няпраўда, быццам беларуская мова няздатная і бедная, у якой ня можна пісаць рэчэй мудрых. Няпраўду гэтую зьбіваюць сотні кніжак старых, напісаных мовай беларускаю лёгкай і пекнай, зьбіваюць мудрыя ўставы Статуту Літоўскага і шмат іншых.

Мова нашая — гэта скарб наш, багаты і пекны, а дарагі і мілы нам за тое, што ён наш родны. Гэта спадчына, што асталася нам ад дзядоў і прашчураў нашых, і мы яе павінны любіць і шанаваць, не зважаючы на зьвягу працаўнікаў нашых. Людзей цёмных або збаламучаных трэба старацца асьвячаць, шырачы паміж іх любоў да роднае зямлі, айчыны нашай, да мовы спрадвечнай нашай Беларускай.

(Наша Ніва, Вільня, 24 верасьня 1909 г., № 39, с. 557—559).

# Яшчэ аб «Крестьянине»

У № 26 віленскай чорнасоценнай газэты *«Крестьянин»* зьявіўся артыкул нейкага *Белорусса* пад назовам *«Самоучитель польскаго языка»*. Артыкул гэты дужа цікавы, бо ясна паказвае, што чалавек браўся не за сваю справу, ня ведаў свае справы, ня ведаў таго, пра што пісаў, і не разумеў, што сам напісаў!.. Каб паказаць, што гэта праўда, разгледзім мы артыкул гэнага «Беларуса».

На самым пачатку гаворыцца аб «шовинизме»,— значыць, аб «преувеличенном восхвалении своей народности перед другими и излишним выделением ея в общей массе населения империи». Гэтак цікава разумеючы слова «шавінізм», пан «Беларус» кажа: «Образовалось белорусское шовинистическое общество Белорусская социалистычная громада. Общество это имеет свой орган, именуемый "Наша Нива"... А тут жа, пабач, даводзіць, што ў яго разуменьні «Наша Ніва» хоча беларусаў перакруціць у палякаў.

Пане «Беларус», падумайце ж Вы самі, што гэта напісалі? Як жа гэта зразумець: то "Наша Ніва" — *беларуская шавіністычная* газэта і хоча згубы ўсяму, што толькі ёсьць не беларускага, то яна хоча з беларусаў рабіць палякаў? Гэтага вашага пісаньня ніхто ня ўцяміць, дык вы самі, відаць, яго не разумееце!

Каб хоць для вока прыцярушыць праўдай свае словы, пан «Беларус» выпісвае з №№ 22 і 25 «Н. Н.» словы, якія здаюцца яму польскімі. Аж сьмех бярэ, як глянеш на той сьпіс! Усе беларускія словы, якія лічыць ён польскімі, можна знайсьці ў кнізе *«Белорусский Словарь Носовича. Издание Императорской Академии Наук в СПБ»*,— а тых «польскіх» слоў, якія ён выпісаў, у польскай мове саўсім німа! Відаць, ані па-беларуску, ані па-польску гэны пан «Беларус» ня ўмее.

Ня будзем тут доўга займацца з «Беларусам», бо ня маем часу вучыць кожнага недавучку, а толькі радзім яму самому навучыцца крыху, пачытаўшы *«Белорусский Словарь»* і іншыя кнігі, сьпіс якіх ён можа знайсьці хаця б у кніжцы *«Белоруссы»* прафэсара Карскага.

Не вялікі быў бы грэх пана «Беларуса», калі б ён толькі ўзяўся за работу, ня знаючы і не разумеючы яе. Дык жа яму гэтага мала: пан «Беларус» ня толькі хацеў быць пісакам газэтным, але заадно напісаць і маленькі фальшывы даносік, зрабіць маленькую правакацыю. Відаць, слава вядомага Азэфа не дала яму спакою, дык і надумаў стаць хаця маленечкім Азэфам і не пасаромеўся ўзяцца за самую паганую і брудную «работу».

Відаць, *«Крестьянину»* ідзе цяпер ня дужа добра і няма каму і аб чым пісаць, калі ён друкуе пісаніну такога «Беларуса», якому мейсца не артыкулы пісаць у газэту, а хіба толькі надпісваць адрэсы для разсылкі газэт. Відаць гэта і з таго, што ня маючы нічога лепшага, пачаў *«Крестьянин»* нанова перадрукоўваць свае даўнейшыя артыкулы, як напрыклад у № 25 *«О белорусском книжном языке»*, напісаны ня меншым, як «Беларус», «вучоным» — Божэлко, і які быў друкаваны ў «Крестьянине» больш за год таму назад.

(Наша Ніва, Вільня, 16 ліпеня 1909 г., № 28 і 29, с. 421—422).

# Дзеля нацыянальнага адраджэння

Рэспубліканская рада ТБМ звярнулася да народных дэпутатаў Беларускай ССР з наступным пісьмом, падпісаным старшынёй Таварыства Нілам Гілевічам: «Паважаныя народныя дэпутаты! — гаворыцца ў ім,— на ахвяраванні грамадзян, арганізацый і прадпрыемстваў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выдае на заказных асновах вельмі патрэбныя зараз кнігі: слоўнікі, даведнікі, а таксама працы беларускіх вучоных гісторыка-культурнага характару і некаторыя інш. Такая дзейнасць Таварыства скарачае тэрмін выхаду вострадэфіцытных беларускіх кніг з 3—5 год, як гэта мае месца цяпер у дзяржаўных выдавецтвах, да 3—5 месяцаў. Таварыства рэалізуе выдадзеныя на такіх асновах кнігі па гранічна нізкіх цэнах, даступных усім пластам насельніцтва Беларусі.

Шэраг працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый, а таксама прыватныя асобы зрабілі грашовыя ўклады на рахунак Таварыства дзеля ажыццяўлення высакародных мэтаў адраджэння беларускага слова. Рэспубліканская рада Таварыства выказвае шчырую ўдзячнасць ахвяравальнікам: працоўным калектывам Мінскага аўтазавода і мотавелазавода, Інстытута анкалогіі і медрадыялогіі, УНДІ «Энергапрам», вучням слуцкіх СШ № 6 і 7, выдавецтву «Мастацкая літаратура», Беларускаму фонду культуры, пісьменнікам Максіму Танку і Ніне Мацяш, народнаму дэпутату БССР М. Жэбраку і многім іншым.

Рэспубліканская рада ТБМ імя Ф. Скарыны звяртаецца да народных дэпутатаў Беларускай ССР, кіруючыся Дэкларацыяй аб Дзяржаўным суверэнітэце БССР, усямерна садзейнічаць паскоранаму выкананню Закона БССР аб мовах. Разам з тым, заклікаем падтрымаць ініцыятывы грамадска-культурных арганізацый Беларусі, якія ажыццяўляюць высакародную дзейнасць па адраджэнню беларускага слова, у прыватнасці, выдавецкую дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, і растлумачыць працоўным калектывам прадпрыемстваў, гаспадарак, а таксама іншым выбаршчыкам, што кожны працоўны рубель, затрачаны на выданне беларускіх кніг, ёсць крок да нацыянальнага адраджэння Беларусі і ў канчатковым выніку будзе служыць фармаванню грамадзянскай супольнасці і паляпшэнню дабрабыту.

Заклікаем адгукнуцца на ініцыятыву Таварыства па паскоранаму выданню беларускіх кніг і пасільным грашовым укладам падтрымаць гэту дзейнасць. *Наш разліковы рахунак 700510 у Белжылсацбанку і валютны рахунак № 000700704 у Беларускім аддзяленні Знешгандальбанку СССР».*

## З лякарні спадара Алеся

### АНГІНА

1. Нагрэць ваду і размяшаць напалам з воцатам. У гарачай сумесі намачыць ручнік, выкруціць і апавіць ім шыю. Зверху абкруціць сухой фланелькаю або сукном. Няхай гэты кампрэс ляжыць 45 хвілін. Затым зрабіць перапынак на пятнаццаць хвілін і зноў намачыць ручнік у растворы. Гэтак рабіць шэсць разоў. Пасля шасці гадзін лячэння, зняўшы кампрэс, шыю трэба чымнебудзь лёгка захутаць, а ручнік зноў намачыць у вадзе з воцатам і ім апавіць шыю. Добра накрыцца і ляжаць адну гадзіну. Праз гадзіну зняць усё з горла і застаацца ў ложку.

Калі праз 6—8 гадзін кашаль яшчэ не прайшоў, трэба зноў абкруціць шыю ручніком, намачыўшы яго ў вадзе з воцатам на 1—2 гадзіны. Можна рабіць кампрэс таксама з воцатам і вельмі халоднай вадой напалам. Акрамя ўсяго, можна перад сном надзець мокрыя шкарпэткі (намочаныя ў воцатавым растворы), а на іх сухія цёплыя ваўняныя. Прачнуўшыся ўначы ці ўранку, адразу скінуць іх.

2. Для лячэння ангіны можна карыстацца і наступным рэцэптам. Нацерці шклянку чырвоных буракоў, уліць туды адну сталовую лыжку воцату, даць настаяцца. Потым з гэтай масы выціснуць сок. Ім прапаласкаць рот. Праглынуць 1—2 сталовыя лыжкі. Гэтым сродкам шмат хто вылечыў хранічную ангіну.

3. Каб вылечыць ангіну, можна піць настой сушанай валошкі лугавой (адна сталовая лыжка на шклянку вару).

4. Для лячэння ангіны выкарыстоўваюць карэнішча бядрынца каменаломкавага. Адвар: 15 грамаў пакрышанага карэнішча бядрынца заліваюць 1,5 шклянкі вады, кіпяцяць 10 хвілін, затым настойваюць 8 гадзін у накрытым посудзе. Потым працэджваюць, дадаюць адну сталовую лыжку мёду ці сіропу, п'юць па адной сталовай лыжцы праз 1—2 гадзіны.

У народнай медыцыне ўжываюць адвар карэнішча таксама пры болях у жываце, кашлі, бранхіце, ларынгіце, камянёвай хваробе, падагры. Пры ліхаманцы ўжываюць настой на гарэлцы.

Наступныя (6—7) рэцэпты ахвяравала музею Валянціна Юбко.

6. Пры ангіне трэба змазваць горла кукурузным алеем.

7. Каб вылечыць ангіну, трэба пасля яды праз 20 хвілін доўга жаваць вашчыну.

8. Мёд — 630 г., альяс — 570 г., чырвонае вінаграднае віно — 635 г.

Альяс здрабніць на мясарубцы (узрост альяса 3—5 гадоў; да таго, як зразаць, не паліваць 5 дзён), змяшаць. На 5 дзён сумесь паставіць у халоднае (можна халадзільнік) месца.

Падагрэць і піць па адной чайнай лыжцы на дзень першыя пяць дзён, затым па адной сталовай лыжцы тры разы на дзень за 1 гадзіну да яды. За 2—3 тыдні вылечваецца хранічная ангіна. Ёсць звесткі, што гэтым сродкам лячылі рак маткі, туберкулёз, язву страўніка, розныя хранічныя хваробы.

9. Прыкладаць да горла медную бляшку.

10. Піць маленькімі глыткамі падагрэтую крамянёўку і паласкаць ёю горла.

## І смех і грэх

### ФРАЗЫ

*Сіла слова — у сіле думкі.*

*Тое, чаго няма ў галаве, не будзе і на языку.*

*Карлікі заўсёды невысокай думкі аб веліканах.*

*І думкі бываюць не ўсе дома.*

*Факты ўпартыя. Ад таго і голыя.*

*Мабыць, каб згубіць талент, трэба закапаць яго?*

### ДЫЯЛОГІ

**— Як вам удаецца пісаць так цікава?**

**— Ха-ха, удаецца! — проста ў мяне няма гучнага імя, і я вымушаны пісаць цікава.**

* * *

**— Ці можаце вы жыць і не пісаць?**

**— Натуральна, не магу. На якія грошы я тады буду жыць?**

### ЛАКАНІЗМЫ

***Глядзеў так далёка, што нічога не ўбачыў.***

***Прачнуўся сам — разбудзі сваё сумленне.***

***Часам лепш прыкусіць язык, каб потым не кусаць локці.***

***Калі гумар не зразумелі, хутчэй за ўсё — гэта сатыра.***

### ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ СЛОЎНІК

**КОСКА — кропка, якая віляе хвастом.**

**ХМАРА — вада, якая апынулася на сёмым небе.**

**САМАКРЫТЫКА — калі крытык крытыкуе крытыка.**

**САМАКРЫТЫЧНАСЦЬ - здольнасць сказаць пра сябе тое, што думаеш пра іншых.**

### «Як скрозь пальцы, скразняк у галаве»

***«П а э т ы з м ы» (1:1) Т. Гарэлікавай з аповесці «Пры святле расстанняў» сабрала ў сюжэт Любоў Ламека***

Паўлік уцэліў туды, куды многія марылі: у навукова-даследчы інстытут, у перспектыўную лабараторыю.

Ён і праўда ўмеў схапіць і ўтрымаць у сабе галоўнае, вывуджваў вузлавое.

«Паўставаў» мозг.

Што ад жыцця трэба? Нахапацца званняў — і сядзець з мордай давольнай. Вось я які — дзівіцеся!

Закружылася галава — ад прадчування таго вялізазнага, вялікаснага, што будзе, і ад немагчымасці ўведаць цяпер, якое яно будзе.

Пытанні, як цвікі, у галаве заселі.

Шчасце захлынала яго, хоць ён і чуў уладу над сабой, і ведаў, пэўна ведаў, што нішто яго ўжо не захліснe.

Свята раскачагарылася ваўсю, ужо і дыхаць не было чым...

А ў галаву малаточкі радасці стукалі.

Безліч знаёмых твараў, і да многіх хочацца падысці, павітацца, перакінуць словам.

І як толькі прарэджвалася неба, аб'яўлялася ў ім светлая прарэха...

Ён нават аднойчы — невядома што яго ўбрыкнула, апынуўся ў Марыны ў гасцях.

Заюрыла дурное жаданне.

Можа, у кіно зграбацца?

Сядзелі побач, локаць да локця, і былі як два магніты: чырвоны і сіні.

Якаясь іскра між імі прабегла, з вачэй у вочы, і Паўла ўсяго джагнула.

Яна сцішылася, аж неяк быццам скамечылася ўся.

Павел сядзеў, як цвік...

Тужлівым шчымам душа шчымела...

Праўду кажуць: калі любіш чалавека — тады ўсё ў ім любіш, і недахопы яго, нявартасці нават, калі яны, вядома, цябе дужа моцна не драпаюць.

Павел, чуючы ў сабе якоесь новае, светлае ўзрушэнне, тым не менш з галавой акунуўся ў агульны настрой...

Пашамаць бы трохі чаго.

Зайшоў па дарозе ў інтэрнат у сталоўку, набраў цэлы паднос талерак, сеў, не выпускаючы думак з галавы, механічна, як бусел, праглынуў усё, што ўзяў.

Эх, абарона, абарона... Калі ёсць якая думка, тады я запамінаю.

Калі ж траскатня, агульшчына — усё як скрозь пальцы, скразняк у галаве.

Пасля абеду... Павел, выпрастаўшы ногі, прытуліўшыся да вушняка, моўчакі імружыў вочы, а пасля падгробся, пацягнуўся ўвесь у нейкім санлівым роздуме, мармытнуў штось і перакуліўся цераз ганак, у дом, рыпнуў дзвярмі ў бліжэйшы пакойчык, маленькі, як павярнуцца, і брыкнуўся на засланы шэрай дзяружкаю ложак.

На ложку і курыў і не змеціў, як выцадзіў амаль увесь пачак.

Ён заюшыўся і згубіў адчуванне часу.

У высокую шыбу мансарды шкрабала галюкаю бяроза.

Цурболіў шчодра дождж.

Зазваніў тэлефон. Званок быў рэзкі, як сірэна. Кожны яму званок праходзіў праз гаспадарскія вушы.

Гэты тоўсценькі з бабскім азадкам чалавек без штодзённае навіны, як рыба без вады.

Перасіліў сябе: яна, але няма чаго пялёхацца ў салодкіх успамінах.

Дзела гарыць!

Сігануў да стала. Моўчакі смаліў цыгарэту за цыгарэтай.

Ізноў браў, адключаны ад усяго свету, у гарачым азарце чысты аркуш — ставіў парадкавы нумар (ужо трохзначны), і зноў лілося на паперу тое, пра што яшчэ хвіліну назад і сам не ведаў,— быў нейкі выбух! Ён на момант заміраў, схіліўшыся над аркушам, варочаючы ў галаве тысячы варыянтаў. Не так. Не тое. Няма куды. Тупік. Развальваецца. І — успышка! Выбух! Пайшло-паехала... Не паспяваў запісваць. Знайшоў, цюкнула яму, угадаў нарэшце, злавіў тое, над чым ці не ўсе два апошнія месяцы біўся. Столькі перадумалася! Столькі доследаў! — І — рашыў загадку!

Д а т у н ь к а ў!!!

## Сакавік-марац

Першы вясновы месяц мы называем сакавіком, прывыклі да гэтага слова, якое вельмі трапна вызначае пару абуджэння прыроды. Трапіла яно і ў прымаўку — «Як ідзе дождж у сакаўцы, то хлеба будзе ў рукаўцы, а як ідзе дождж у маі, то хлеба будзе і на гультаі». Але ёсць падобная прымаўка, дзе гэтая пара называецца іншым словам,— «Сухі марац, мокры май, будзе жыта нібы гай».

І трэба сказаць, што мудрыя нашы продкі чамусьці больш упадабалі марац. «Цешыўся старац, што перажыў марац...», «Прыйдзе марац, не адзін заплача старац», «У марцы яшчэ мерзнуць старцы», «Калі жыта ў марцы глядзіць на неба, не есці тады хлеба». Ды і малавядомы беларускі паэт XVI стагоддзя Андрэй Рымша ў вершы «Храналогія», надрукаваным у 1581 годзе, запісаў старабеларускую назву першага вясновага месяца — марац.

Такое замілаванне да марца, напэўна, не ад таго, што падобным словам называлі гэты месяц у Старажытным Рыме, дзе такім чынам ушаноўвалі бога вайны Марса.

У нашых прашчураў, калі яны яшчэ былі паганскай веры, была багіня Мара. Імя яе дайшло да нашага часу ў назве «Мар'іна Горка». Так называлі ўрочышчы, звычайна ўзгоркі, дзе стаялі калісьці паганскія стоды (ідалы) у выглядзе жаночай фігуры. Гэта былі выявы Мары, багіні зямной урадлівасці. У старажытных грэкаў, напрыклад, прараслым зернем і ўрадлівасцю апекавалася Персефона. Беларускую Мару, відаць, можна лічыць яе адпаведніцай.

Мара, як і іншыя багі, звязаная з ушанаваннем Маці-зямлі, не толькі апекавалася ўрадлівасцю, але і памерлымі, пахаванымі ў зямлі. Паводле ўяўленняў нашых прашчураў, Мара штогод увосень, калі ўся расліннасць замірала, нібы пераходзіла ў царства памерлых, «на той свет», а вясною з абуджэннем прыроды ажывала. Можна меркаваць, што Мара апекавалася і жанчынамі.

Лічаць, што культ Мары праіснаваў да XVI стагоддзя, а пасля быў выцеснены культам Мары, Маці Божай. Але ў Мар'інай Горцы старэйшыя жыхары паведамяць вам, што ў ваколіцы мястэчка яшчэ ў 20-я гады XX стагоддзя стаяла каменная «баба». Магчыма, гэта была Мара. Падзней, вядома, гэтая старадаўняя скульптура была знішчана.

Верагодна, што марац — гэта месяц багіні Мары, калі яна пачынае зноў уладарыць на зямлі. Нездарма ж новы год у старажытных славян пачынаўся ў сакавіку.

Здзіслаў СІЦЬКО.



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі 33-25-11.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 8 000 паасобнікаў. Заказ 2434. Індэкс 74975.